*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 40(96) ◈ 7 кастрычніка 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)



## ПОСТУП ТЫДНЯ

**НА БЕЛАРУСІ ЎПЕРШЫНЮ АДЗНАЧАНЫ ДЗЕНЬ ПАЖЫЛЫХ ЛЮДЗЕЙ. ІНІЦЫЯТАРАМ ПРАВЯДЗЕННЯ ДНЯ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ СТАЛА ААН**

***СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ АЎСТРЫЮ,** дзе правёў перагаворы з федэральным канцлерам, сустрэўся з дэпутатамі аўстрыйскага парламента. Аўстрыя абяцала выдзеліць Беларусі вялікі крэдыт. У першыя пяць гадоў — каля 500 мільёнаў долараў.*

**АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ САВЕТА БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ,** якое вёў старшыня Савета бяспекі Беларусі, кіраўнік Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. Быў разгледжаны праект ваеннай (абароннай) дактрыны і галоўных напрамкаў ваеннага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь. Асаблівая ўвага была ўдзелена прапрацоўцы сацыяльных гарантый ваеннаслужачым, якіх звальняюць з Узброеных сіл. Прызнана мэтазгодным паскорыць распрацоўку праграмы сацыяльнай абароны ваеннаслужачых. Абмеркаваны і іншыя пытанні бяспекі і суверэнітэту Беларусі.

**ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РБ СТВОРАНЫ ЯШЧЭ АДЗІН КАМІТЭТ — ПА СПРАВАХ МОЛАДЗІ.** Асноўнай задачай гэтага камітэта з'яўляецца каардынацыя работы міністэрстваў і ўстаноў, якія займаюцца праблемамі моладзі.

**У МЕНСКУ ПРАЦЯГВАЮЦЦА БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКІЯ ПЕРАГАВОРЫ ПА ПРАБЛЕМАХ ЗНІШЧЭННЯ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ.**

**АДБЫЎСЯ ЧАРГОВЫ РАУНД ПЕРАГАВОРАЎ ПАМІЖ ДЭЛЕГАЦЫЯМІ ЛІТВЫ І БЕЛАРУСІ ПА ПЫТАННЯХ ГРАНІЦЫ ПАМІЖ ГЭТЫМІ ДЗЯРЖАВАМІ.** Была дасягнута прынцыповая дамоўленасць, што пры вызначэнні лініі праходжання дзяржаўнай граніцы бакі будуць кіравацца лініяй фактычнага землекарыстання.

*З прэс-канферэнцыі*

## Мітрапаліт ФІЛАРЭТ: «Крый, Божа, не чапайце нас!»

Надзвычай цікавая, эмацыянальная гаворка адбылася на прэс-канферэнцыі ў епархіяльным упраўленні напярэдадні святкавання 1000-годдзя хрысціянскай царквы



на Беларусі: 1000 гадоў назад, у 992 годзе быў пастаўлены хрысціянскі епіскап у старажытным беларускім горадзе Полацку.

Але гаворка выйшла па-за межы юбілейных урачыстасцяў. У прыватнасці, Уладыка Філарэт выказаўся супраць абвінавачванняў, што царква, маўляў, прымае ўдзел у палітычнай дзейнасці. На ўсе захады розных палітычных партый і рухаў да паяднання сваіх мэтаў з царкоўным жыццём, мітрапаліт адказваў толькі так: «Крый Божа, не чапайце нас!»

Але праваслаўная царква і каталіцкі касцёл тым не менш пераплецены з дзяржаўнымі ды з пэўнымі палітычнымі клопатамі. Адчуваецца гэта, напрыклад, і па процістаянню, што ўзнікла паміж праваслаўнай царквой і газетай «Літаратура і мастацтва». Сутнасць канфлікту ў некаторай ступені перададзена ў звароце святароў Беларускага Экзархата напярэдадні святкавання 1000-годдзя Полацкай епархіі і хрысціянскай царквы на Беларусі, дзе сярод іншага вядзецца гаворка аб мэтазгоднасці перадачы праваслаўнай царкве Сафійскага Сабора ў Полацку, які зараз выкарыстоўваецца ўстановамі культуры рэспублікі.

«ЛіМ» выступіў супраць перадачы Сабора — сімвала старажытнасці Беларусі — праваслаўнай царкве, бо да яго маюць дачыненне іншыя хрысціянскія канфесіі, тым болей, што і набыткаў на шляху беларускасці ў праваслаўнай царквы на Беларусі зусім не шмат. Мітрапаліт у гутарцы з журналістам адзначыў, што ў праваслаўнай царкве гаспадыня не расійская, а царкоўнаславянская мова, што ўсё, маўляў, залежыць ад саміх вернікаў.

Мітрапаліт Філарэт таксама адзначыў, што праваслаўная царква — не вораг беларускасці: перакладзена на беларускую мову Евангелле ад Мацвея, завяршаецца пераклад Евангелля ад Марка, а па-беларуску могуць неўзабаве загучаць ранішнія і вячэрнія малітвы. І ў Менскай духоўнай семінарыі ўпершыню набрана беларускамоўная група.

Алесь КУТ.





Бліжэйшымі, больш адзін для аднаго зразумелымі робяцца жыхары Брэста і бельгійскага горада Сент-Нікаласа. Ад афіцыйных кантактаў гарады цяпер перайшлі да цёплых і простых чалавечых сустрэч. Горад над Бугам наведалі пенсіянеры з Сент-Нікаласа, яны жылі ў беларускіх сем'ях.

**На здымку:** бельгійцы Джульета Кепенс, Аўгуст Ванламбергей і Марыя Клер дэ Костэр гасцююць у сям'і Ігара Нічыпарука.

**Фота Эдуарда КАБЯКА. Белінфарм.**



 

# Фестываль пад Оршай



***5** верасня на Крапівенскім полі пад Оршай адбыўся другі фестываль беларускай бардаўскай песні, прысвечаны гадавіне славутай Аршанскай бітвы 1514 года.*

*Фэст распачаўся адкрыццём памятнага знака, прысвечанага гэтай істотнай падзеі беларускай гісторыі. Над ваколіцай цэлую ноч гучалі песні беларускіх бардаў. Сярод выканаўцаў — Андрэй Мельнікаў, Лана Медзіч, Кастусь Герашчанка, Алег Дашкевіч, Віктар Шалкевіч, Лера Сом. Будзем спадзявацца, што традыцыя фестывалю працягнецца, што праз год мы зноў сустрэнемся на Крапівенскім полі.*

**Фота Кастуся ЛАЗУКІ.**

**На здымках: Наталля Казлова з Барысава, Лана Медзіч з Менска.**



*Але!*

# І зноў «руская карта»

**З**НАЁМСТВА з некаторымі публікацыямі апошняга часу асобных перыядычных выданняў рэспублікі недвухсэнсоўна засведчыла, што ў нас ёсць даволі акрэсленыя сілы, якім не даспадобы пашырэнне ўжывання роднай мовы, якім не па нутру адраджэнскія працэсы наогул. Характэрна, што свае антыбеларускія па сутнасці выступленні прадстаўнікі гэтых сіл драпіруюць апраткай звычайнай, на першы погляд абсалютна бяскрыўднай, а то і прыватнай палемікі. У якасці ж казырнага туза яны часцяком звыкла трымаюць за пазухай сродак ужо шмат дзе з поспехам апрабаваны — так званую рускую карту. Аўтараў падобных публікацый з аўтарамі допісаў у рэдакцыю, дзе выказваецца незадавальненне пэўнымі бакамі адраджэнскага руху, сярод астатняга яднае тое, што звычайна яны гаворку вядуць адметным чынам. І тут і там аб'ектыўныя рэаліі знарок абыходзяцца, адны факты глуха замоўчваюцца, а другія ж — няхай сабе другасныя — за вушы выцягваюцца на паверхню, ды яшчэ ўсяляк абсмоктваюцца.

Вось прыклады. У сёлетнім ліпені «Наша слова» атрымала абураны ліст М. Лявіцкага з Менска. Што ж вымусіла яго «ўскіпець»? Аказваецца, тое, што на старонках газеты прагучала думка наконт актыўнай русіфікатарскай ролі на Беларусі праваслаўнай царквы. «Праваслаўная царква,— рашуча заявіў М. Лявіцкі,— русіфікацыю не праводзіць. Гэта паклёп». А як жа з фактамі? Замест іх красамоўна, не шкадуючы фарбаў ён, дарэчы, на добрай беларускай мове, пагрозліва папярэджвае: «Спадары пісьменнікі і журналісты! Вы павінны тэрмінова заняцца не царквой, а ўрадавымі ўстановамі, школамі, рэдакцыямі газет і часопісаў! Вось дзе поле дзейнасці!.. Рэлігія — гэта не Ваша опера, спадары-таварышы, і не суйцеся туды, калі ласка! А то сярод веруючых Вы пасееце да сябе злобу». Вось гэтак: калі, маўляў, толькі асмеліцеся гаварыць пра беларускае слова ў царкве, то вернікі непазбежна абразяцца, бо «яны фанатычна любяць сваё духавенства, падпарадкоўваюцца яму, але толькі да тае пары, пакуль гэты святар не парушае царкоўных устояў і традыцый». Выходзіць, «устоі» і «традыцыі» хрысціянскай царквы — гэта рускамоўе? А як жа быць з той мовай, з якой перакладзена Святое пісанне?

І далей аўтар ліста, не даўшы аддыхацца, малюе страшную перспектыву таго, што абавязкова і немінуча адбудзецца, калі праваслаўныя святары ўсё ж паспрабуюць загаварыць з паствай па-беларуску. Ён, у прыватнасці, паведамляе пра «інцыдэнт», які здарыўся 5 ліпеня г. г. у менскім праваслаўным саборы падчас набажэнстваў у гонар «Усіх Святых, на зямлі беларускай прасіяўшых». Служба, якую ўрачыста правіў тады мітрапаліт Філарэт, была як служба. Але «адзін малады святар выйшаў з алтара і сказаў вельмі прыгожае казанне на беларускай мове». Аўтар нават дапускае, што, «магчыма, зрабіў ён гэта з ведама Філарэта, бо свята... датычыць Беларусі». А ў выніку, на што ў лісце зроблены націск, атрымаўся скандал, ды такі, якога нават у нядобрай памяці хрушчоўскія часы «ніколі ў царкве не сустракалі». Адна пажылая жанчына «раптам на ўсё сваё горла закрычала: «Почему вы на этом языке начали говорить?! Говорите по-русски, чтобы все понимали! А этот язык нам не нужен!» Абураная жанчына,— працягвае чытач,— адзінокай не засталася, «яе заступніцы таксама пачалі крычаць: «Она права! Мы тоже плохо проповедь поняли! Нечего тут национализм разводить!» Далей распавядаецца, што натоўп вернікаў нібыта «пачаў прыхільна схіляцца менавіта да іх» (крыкуноў — М. В.). А інцыдэнт быў спынены, калі нехта сказаў, што жанчыны-крыкуны не інакш як сектанткі.

Можа, так і было. А можа, проста правакаткі? Усякае магло здарыцца. Калі прыняць логіку аўтара ліста, то беларускаму слову, нават «вельмі прыгожым казанням» і заўтра не знойдзецца месца ў праваслаўным храме, бо вернікі «не дазволяць»! Чыя гэта тады будзе царква? Няўжо беларуская? Ці яшчэ нейкай дзяржавы? Праўда, да сваёй сур'ёзнай высновы чытач прыйшоў, зрабіўшыся сведкаю толькі аднаго выпадку, які, зрэшты (калі не лічыць гэта арганізаванай правакацыяй), наўрад ці адбыўся б, каб вернікаў адпаведным чынам загадзя падрыхтавалі да нармальнага ўспрымання ў храме роднага слова. Але апошняе — унутраная справа царквы, куды мы, зразумела, не маем права ўмешвацца.

Цікавы і змястоўны ліст даслаў са Слоніма кандыдат багаслоўя, протаіерэй Сергій Гардун. Допіс святара — на цудоўнай беларускай мове, што вельмі прыемна. Протаіерэй абсалютна правільна лічыць, што «на працягу доўгіх стагоддзяў Беларусь не мела самастойнасці, умовы для развіцця беларускай культуры і мовы былі неспрыяльныя... Сёння пераважная большасць праваслаўных святароў размаўляе па-руску. Гэта бясспрэчны факт». Але далей чытач піша: «...на гэтай падставе абвінавачваць царкву ў русіфікатарскай дзейнасці нельга, бо ў такім разе на той самай падставе можна абвінаваціць у гэтым і беларускую медыцыну... лекары таксама ў сваёй большасці карыстаюцца рускай мовай...» Святар параўноўваецца з лекарам. Але ж першы мае справу з самім панам Богам, з душамі вернікаў, а другі — толькі з хваробамі нямоглай і тленнай плоці. Наш чытач таксама сцвярджае: «Што датычыць рускай мовы, то гэта мова штодзённага ўжытку для большасці цяперашніх беларусаў (з вядомых усім гістарычных прычын) і толькі таму яна ўжываецца і ў царкоўным асяроддзі». Але ж святар, калі ён чалавек нацыянальна свядомы, калі ён бачыць далягляды сваёй паствы, свайго народа наогул, проста маральна абавязаны крочыць наперадзе, далучаючы вернікаў да святых ідэалаў сапраўднага нацыянальнага Адраджэння... Вельмі хочацца верыць айцу Сергію, бо думкі ён выкладае шырока і шчыра. Але ж і недагаворанасць (асцярожнасць?) застаецца.

Калі ў сваіх лістах некаторыя чытачы толькі адмаўляюць роднай мове ў праве на ўваход у царкву, калі нехта прыстойна выказвае свае сумненні адносна шляхоў беларусізацыі, то ў асобных публікацыях пэўных перыядычных выданняў рэспублікі назіраецца ўжо нешта іншае. Тут гарматныя залпы па беларускасці, літаральна па ўсім, што так ці інакш звязана з Адраджэннем. Прычым гаворка вядзецца не з аб'ектыўных пазіцый, а з выкарыстаннем перакручаных, а то і сумніцельных фактаў. Пры гэтым падобныя публікацыі вылучаюцца нейкай пячорна-заалагічнай варожасцю да ўсяго сапраўды беларускага.

...Гартаем восьмы (жнівеньскі) нумар менскай газеты «Политика. Позиция. Прогноз». Выданне прэтэндуе на рэспектабельнасць і саліднасць: аж 16 палос (адкуль толькі сродкі людзі бяруць!?). Усе матэрыялы «спечаны» прафесійна, нічога не скажаш. Але змест... Нават паняцце «краіна», як і ўчора, паводле разумення рэдакцыі — не Рэспубліка Беларусь, не суверэнная наша дзяржава, а былы СССР. Газета называе сябе «информационно-аналитической и научно-популярной». Але марна шукаць сярод матэрыялаў якога-небудзь грунтоўнага палітычнага аналізу ці рэальных, глыбокіх прагнозаў жыцця рэспублікі. Тон задае ўступны артыкул галоўнага рэдактара газеты Віктара Вольскага «Станет ли Беларусь колонией Израиля?» Што пра яго сказаць? Непрыхаваная нянавісць да беларускага Адраджэння і слёзны плач па «единой и неделимой» бальшавіцкай імперыі. Хоць бы нейкая мера, хоць жменька знешняй прыстойнасці, інтэлігентнасці знайшлася ў газеты. Катэгарычна не падабаецца ёй скрозь усё: і адноўленая гістарычная сімволіка Беларусі, і намер рэспублікі стаць бяз'ядзернай, нейтральнай дзяржавай, і першыя парасткі нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Асаблівую лютасць газеты выклікаюць людзі-падзвіжнікі, якія рупяцца на карысць Адраджэння, не пакладаючы рук. За сёлетні год у другі ўжо раз (!) у няміласць «ППП» трапіў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Дванаццаці вобразных, прасякнутых болем за трагічны лёс роднай мовы гіпербалічных радкоў з кнігі новых вершаў паэта «Жыта, сосны і валуны» газеце хапіла, каб зноў параўнаць аўтара з... адыёзным антыісламістам Салманам Рушдзі (нататка «православного священника Павла Боянкова «Нил-богоборец»). І гэта, падкрэслім, пасля таго, як у ліпені г. г. аўтар кніжкі на старонках «Народнай газеты» ўжо даў рашучую водпаведзь «православному священнику», выкрыўшы поўную абсурднасць езуіцкіх сафізмаў П. Баянкова. Газета тым не менш зноў друкуе гэты матэрыял, кіруючыся жаданнем у што б там ні стала зблэсціць, абылгаць, зняславіць паэта, а заадно і беларускае Адраджэнне.

«ППП» пільна сочыць не толькі за творчасцю вядомых адраджэнцаў. Увагі не пазбаўлены і тыя, хто робіць першыя самастойныя крокі, спрабуючы разабрацца ў няпростых варунках айчыннай гісторыі. Варта было ў маі г. г. маладому журналісту-вайскоўцу А. Карлюкевічу ў газеце «Во славу Родины» змясціць артыкул «Загадка ігумені Макрыны», дзе на падставе дакументаў расказваецца аб нечуваных жорсткасцях царскіх улад у перыяд гвалтоўнага далучэння уніятаў на Беларусі да пануючай у Расійскай імперыі рэлігіі — «рускага» праваслаўя, як на аўтара абрынуліся маланкі. «Старшы лейтэнант запаса» П. Васілевіч даслаў газеце «Во славу Родины» свой гнеўны ліст, але рэдакцыя (гэта адчуваецца) надрукавала толькі больш-менш прыстойныя, памяркоўныя з яго вытрымкі. Але ў «ППП» — характар іншы. Яна шчодра аддала П. Васілевічу амаль палавіну старонкі. Учапіўшыся за адну з сапраўдных недакладнасцей А. Карлюкевіча, які памылкова назваў згаданую Макрыну «ігуменняй касцёла» (трэба было — ігумення манастыра), аўтар без хвіліны вагання вешае на журналіста ярлык «русафоба». А калі на Беларусі ёсць русафобы, якіх у рэспубліцы нават у папулярнай вайсковай газеце друкуюць, то з кантэксту матэрыялу П. Васілевіча недвухсэнсоўна вынікае: на Беларусі, несумненна, існуе і «рускае пытанне». А калі так, то можна, нарэшце, паспрабаваць і тут разыграць «рускую карту», рабочыя сцэнарыі якой зараз добра вядомыя...

П. Васілевіч нібы між іншым, як ісціну ўсталяваную і непахісную, называе зліццё беларусаў-уніятаў з праваслаўнай царквой у 1839 годзе «добраахвотным». Нішто сабе «добрая воля», калі і праз два дзесяцігоддзі на Беларусі працягвалася ўпартае супраціўленне вернікаў. З архіўных дакументаў вядома, у прыватнасці (і факты падобныя — не адзінкавыя), што віленскі генерал-губернатар У. І. Назімаў неаднойчы накіроўваў войскі ў розныя куткі Беларусі, каб сілай схіляць жыхароў у праваслаўе. Такое сцвярджае не аўтар гэтых радкоў, якога, дарэчы, «ППП» можа абвінаваціць у чым хочаш — аж да ваяўнічага «нацыяналізму», ці ўяўнай, неіснуючай «русафобіі». Так піша Аляксандр Іванавіч Герцэн (яго, нагадаем, у мінулым стагоддзі па заслугах лічылі сумленнем Расіі) у сваім «Лупцуючым праваслаўі», змешчаным у 27-ым нумары славутага бесцэнзурнага «Колокола» за 1858 год.

На заканчэнне хочацца шчыра прызнацца: непрыемна наогул весці палеміку з аўтарамі, якія не проста нечага не зразумелі ці не ведаюць, а звыкла карыстаюцца прыёмамі гульні ў карты, уласцівымі пэўнай катэгорыі «прафесіяналаў».

**Мар'ян ВІЖ.**



 

Заняткі вядзе Валянціна Карлаўна РАМАНЦЭВІЧ

ЗАНЯТКІ II

Вочна-завочная школа

# ТЭМА: Вымаўленне спалучэнняў зычных

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце словы ўголас, памятаючы правілы чытання галосных і зычных (папярэдні ўрок):
*багаты, гаспадар, загарэць, чакае, дзякуй, нядзеля, гляджу, бярозавы, чысціня, пачакайце, раздзяліць, зноў, заўтра, поўны.*
2. Прачытайце скорагаворкі, запомніце. Хутка прагаварыце тры разы.
а) *Каму маку — каму макаку.*
б) *Натапка пакаваў пакупкі ў пакункі.*

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Выканайце (выполните) вусна наступныя заданні.
— Назавіце вядомыя Вам словы ветлівасці.
— Павітайцеся з суседам і пачніце з ім гаворку.
— Папрасіце субяседніка падаць Вам патрэбную рэч і падзякуйце за паслугу.
2. Заданне да тэксту «Пра лён».
Адкажыце (ответьте) на пытанні:
— Якую беларускую загадку пра лён Вы запомнілі?
— Як цаніўся лён у старажытнасці?
3. Заданні паводле жыццёвага вопыту.
— Раскажыце, якім уяўляецца Вам ільняное поле, калі лён цвіце?
— Назавіце вядомыя Вам рэчы, якія выраблялі людзі з ільну.
— Дакажыце, што вядомыя Вам рэчы з ільну вельмі практычныя.

### ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

**1. Прачытайце тэкст. Запомніце прызначэнне ручніка ў жыцці беларусаў.**

### СІМВОЛІКА РУЧНІКА

Сярод ільняных вырабаў традыцыйнага беларускага ткацтва варты ўвагі ручнік.

Цікаўнасць да гэтай рэчы абумоўлена не толькі прыгажосцю, яго эстэтычнай функцыяй — упрыгожання інтэр'еру хаты, але і яго роляй у беларускіх абрадах.

Шырока выкарыстоўваўся ручнік, напрыклад, у вясельных абрадах. Падрыхтаваныя ў якасці падарункаў ручнікі мелі прэстыжнае значэнне, паколькі з'яўляліся лепшым доказам здольнасці нявесты ткаць, а ў будучым — апранаць сям'ю. Дарэнне ручнікоў заўсёды суправаджалася пэўнымі рытуаламі, песнямі. Але ручнікі дарылі не ўсім родзічам маладога (жаніха), а пераважна мужчынам: маладому, яго бацьку, свату і яго памочніку, дружыне маладога, іншым вясельным чынам.

Тыповым было ўжыванне ручніка ў якасці падножніка, на які станавіліся маладыя ў час вянчання. Адыходзячы ад аналоя, нявеста старалася цягнуць за сабой і ручнік. Гэта рабілася для таго, каб сяброўкі цягнуліся за ёю — выходзілі замуж.

Ручнікам карысталіся і ў іншыя моманты вясельнага абраду: у час звязвання нявесты і жаніха на вянчанні, у час пераезду да жаніха, што сімвалізавала адзінства маладых.

Ужываўся ручнік і для абгортвання рук. Маладых урачыста абводзілі ручніком вакол стала, заводзілі за стол. Такім жа чынам маладога і нявесту ўводзілі ў царкву.

Кульмінацыйны момант вяселля — прыезд павянчаных да хаты маладога — суправаджаўся своеасаблівай выстаўкай пасагу нявесты: ручнікоў, абрусаў, пасцілак — ствараўся яркі святочны інтэр'ер. Прысутныя прыдзірліва ацэньвалі колькасць і якасць рэчаў, багацце ўзораў.

Ручнік шырока ўжываўся ў жалобнай абраднасці.

Адзін з такіх старажытных звычаяў — вывешванне ручнікоў з вокнаў. На Віцебшчыне, напрыклад, калі цела нябожчыка ўжо ляжала ў труне на кутнім месцы, за акно, пры якім стаяла труна, вывешваўся ручнік. І ў знак жалобы, і для «патрэб» нябожчыка, які, паводле павер'я, можа вярнуцца ў пакінутую хату.

У Гомельскай вобласці на акно ставілі шклянку з чыстай вадой і вешалі ручнік, каб душа нябожчыка мела магчымасць памыцца і чыстай з'явіцца на той свет.

Ручнікамі здаўна на Палессі абвязваюць надмагільныя крыжы, бо гэта з'яўляецца найбольш выразным, даступным і зручным сродкам аздаблення магілы.

Ручнік ужываўся і пры ўшанаванні духаў продкаў на «Дзяды», прычым у розны мясцовасці па-свойму. На Магілёўшчыне, напрыклад, пасля вячэры на канец стала клалі ручнік, кавалак мыла, ставілі кубак з вадой. На стале пакідалі поўную чарку і вячэру. Людзі верылі, што дзяды прыйдуць уначы на вячэру і будуць мыць рукі. Рытуалы з ручніком адрозніваюцца паводле формы, але іх аб'ядноўвала сутнасць самога абраду — ушанаванне продкаў. Ручнік, такім чынам, паўстае перад намі, як сімвалічны пасрэднік паміж светам жывым і светам нябачным.

**Паводле В. ФАДЗЕЕВАЙ**.

## Новая тэма

**Запомніце:**
Свісцячыя: *з, с, дз, ц.*
Шыпячыя: *ж, ш, дж, ч.*
Правілы вымаўлення спалучэнняў зычных
1. Свісцячыя перад шыпячымі вымаўляюцца як шыпячыя:
— *зж* [жж]: напішам *разжаліцца* (чытаем *ражжаліцца*);
— *сш, зш* [шш]: *бясшумна (бяшшумна), сшытак (шшытак);*
— *здж* [ждж]: *езджу (ежджу);*
— *сч, зч* [шч]: *пясчаны (пяшчаны);*
2. Шыпячыя перад свісцячымі вымаўляюцца як свісцячыя:
— *чц* [цц]: *у рэчцы (у рэццы);*
— *шс, жс* [сс]: *вучышся (вучысся), нясвіжскі (нясвіскі).*
3. А таксама звярніце ўвагу і запомніце:
— *дч, тч* [чч]: *лётчык (лёччык), перакладчык (перакладччык).*
— *дц, тц* [цц]: *на кладцы (на клаццы), у палатцы (у палаццы).*
— *чн:* чытаецца нязменна: *ручнік, яечня, сталічны.*
4. Свісцячыя *з, с, дз, ц* перад мяккімі зычнымі вымаўляюцца мякка: напішам *змена* (чытаем *зьмена*), *з лесу (зь лесу);*
*снег (сьнег);*
*дзве (дзьве);*
*цвёрды (цьвёрды).*

**Выключэнне.** Перад мяккімі *г, к, х* свісцячыя вымаўляюцца цвёрда: *згінуць, менскі, схіліцца.*

**Практыкаванне.** Прачытайце ўголас сказы, захоўваючы правілы чытання.

*Дурны хутчэй хапаецца за агонь, чым за розум.*

*Круцельствам свет пройдзеш, ды назад не вернешся.*

*Гібкага дрэва вецер не зломіць.*

## Развіццё гутарковай мовы

### Чалавек

*Галава, нос, рот, губы, зубы, язык, шчокі, вушы, вусы, барада, валасы, шыя, рука, нага, пальцы, ногці, кулак, локаць, калена, жывот, спіна, грудзі* (толькі ў множным ліку), *плечы, сэрца.* Нагадаем і адметныя беларускія назвы частак цела: *лицо — твар, брови — бровы (брыво), фигура — стан, глаза — вочы (вока), ресницы — вейкі, виски — скроні.*

### ЗНЕШНІ ВЫГЛЯД

*Высокі, нізкі, сярэдняга росту, стройны, худы, хударлявы, тоўсты, даўганогі, гарбаты, згорблены, спартыўнага складу.*

### ВОЧЫ

Колер (цвет): *сінія, блакітныя (голубые), шэрыя, карыя, цёмныя, чорныя, выцвілыя.*

Паводле формы: *вялікія, малыя, невялікія, круглыя, вырачаныя (вытаращенные).*

Паводле выразу: *добрыя, ясныя, закаханыя, ласкавыя, пільныя, разумныя, рашучыя, смелыя, хітрыя, строгія, суровыя.*

### ДЗЕЯННЕ І СТАН ЧАЛАВЕКА

Чалавек ідзе, едзе, бяжыць, *спатыкаецца, стараецца, купаецца, мыецца, вучыцца, лянуецца,* запамінае, думае, спіць, ляжыць, сядзіць, стаіць, *смяецца, знаходзіцца,* танцуе, спявае, іграе, думае, піша, крычыць, капае, плача, пасылае.

**Запомніце беларуска-рускія адпаведнікі:**

працуе — работает; робіць — делает; пытае — спрашивает; адказвае — отвечает; памятае — помнит; *хвалюецца* — волнуется; *сварыцца* — ругается; марыць — мечтает; фарбуе — красит; прасуе — утюжит; есць — кушает; будуе — строит; *памыляецца* — ошибается; чуе — слышит; захоўвае — сохраняет.

### ЗАМАЦАВАННЕ СЛОЎНІКА

**Заданні.**

1. Вы прачыталі больш за сто слоў. Прааналізуйце і скажыце, якія з іх вы ўжо ведаеце і якія вам неабходна запомніць.
2. Прачытайце пачутыя ўпершыню, і складайце з імі сказы.
3. Падкрэсленыя дзеясловы (глаголы) спалучыце са словам *ты,* запішыце і прачытайце, захоўваючы правілы вымаўлення, напрыклад: *спатыкаецца — ты спатыкаешся.*
4. Новыя для Вас словы запішыце на памяці і праверце, ці не нарабілі вы памылак.

*Культура мовы*

## А можа, нагном?

Пісьменнік Васіль Хомчанка ў нататцы «Набгом ці нагбом?» («Наша слова», 8 мая 1992 г.) дае вельмі цікавае тлумачэнне ўтварэння слова *набгом:* ліць ваду з посуду, гледзячы на неба, на Бога. Сэнс ёсць! Але ў гэтым варыянце тлумачэнне больш жартаўлівае, чым лінгвістычнае.

Гэтую нататку мы абмяркоўвалі з супрацоўнікам «Аршанскай газеты» Міколам Дзямідовічам і прыйшлі да наступнага вываду. Прыслоўе *набгом* утварылася ад дзеепрыслоўя *набягаючы*, а яно — ад дзеяслова *набягаць.* Калі нахіляць збан, вядро, вада *набягае* на край посуду. І такім чынам атрымліваецца: ліць *набягаючую* на край посуду ваду — *набгом.*

Цяпер пра слова *нагбом.* Назва зборніка вершаў Р. Барадуліна — «Нагбом» — была заўжды вялікай загадкай для вучняў. Усялякія спробы растлумачыць сутнасць загалоўка даходзілі аж да грэчаскай міфалогіі! Прасачыўшы марфемнае змяненне слова, можна прыйсці да наступнай схемы яго ўтварэння: нагіба́ць — нагіба́ючы — нагібам — нагібо́м — нагбо́м.

Гэта слова ўжываецца часцей у тых раёнах, дзе большы уплыў расійскай мовы.

Апрача гэтых двух слоў ёсць яшчэ і трэцяе, сінонім гэтага паняцця, дыялектнае — *нагном.* Яно шырока ўжываецца ў розных абласцях, асабліва ў Брэсцкай. Прыслоўе *нагном* утварылася ад дзеепрыслоўя *нагінаючы*, а яно — ад дзеяслова *нагінаць.* Можа, гэтаму слову суджана стаць літаратурнай нормай? Няхай на гэта пытанне адкажуць майстры мастацкага слова і лінгвісты.

**Васіль ГУСЦІНОВІЧ,**
**настаўнік.**

## Кароткі слоўнік эканомікі

«УЦЁКІ» КАПІТАЛАЎ — перамяшчэнне на працягу невялікага прамежку часу ў вялікім памеры каротка-тэрміновых пазыковых капіталаў паміж краінамі. Манеўрыраванне працэнтнымі стаўкамі прыводзіць да парушэння попыту і прапановы на валютных рынках. Больш высокая, чым на нацыянальным рынку капіталаў, стаўка банкаўскага працэнта стварае ўмовы для «ўцёкаў» капіталаў. Падставай для адплыву капіталаў з'яўляецца таксама выйгрыш ад курсавых суадносін, не цвёрдае валютнае становішча ў краіне, магчымасць дэвальвацыі яе валюты, змены эканамічных і палітычных умоў функцыяніравання пазыковага капіталу, пагроза нацыяналізацыі.

«Уцёкі» капіталаў звычайна маюць форму пераводу капіталу на рахункі замежных банкаў, куплі замежных каштоўных папер, кантрабанднага вывазу золата, замежнай валюты, нацыянальных грашовых знакаў і г. д. «Уцёкі» капіталаў адмоўна дзейнічаюць на стан плацежнага балансу, валютнага курсу і эканамічнага стану краіны.

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—39).*

— Пан Настаўнік, ці можна нам пагаварыць з вамі сам-насам?

— Вы можаце гаварыць свабодна. У мяне няма сакрэтаў ад панны Добсан.

— Наша справа не датычыць касмічнай свядомасці.

У вачах у яго бліснуў агеньчык, і ён цвёрда сказаў:

— Я не жадаю гаварыць на іншыя тэмы.

Дзяўчына нясмела паглядзела на яго і сказала:

— Даруйце, Настаўнік, мне можна пакінуць вас?..

Яна кіўнула галавою Джынксу і мне, пакланілася старому і выйшла. Нават не азірнулася ні разу. Я быў расчараваны: значыцца, я не абудзіў у ёй таго, што яна — ва мне. Але адразу ж вырашыў, што мне ўдасца зацікавіць яе сваёй асобаю да таго, як перастане цікавіць яна мяне...

Стары ў два вялікія крокі дайшоў да ўваходных дзвярэй і адкінуў нагою драўляшку, што падпірала іх. Дзверы зачыніліся. Калі ён азірнуўся, на твары ў яго ўжо не было ніякай стомы — ён паглядзеў на Джынкса з шалам:

— Як вы насмеліліся прыйсці сюды! Якое нахабства!..

Нарэшце! Гэтага я і чакаў.

— Хвілінку, док,— пачаў я.

— Я не хачу быць замешаным ані ў якіх гісторыях! — абсек ён.— Гэтае жыццё скончана для мяне, зусім скончана. Яны гэта ўсе ведаюць. Я ўжо больш не лячу целы. Я хачу прысвяціць сябе душам...

— Не кіпяціцеся,— сказаў Джынкс.

— Заткніся! — абарваў я яго.— Паслухайце, док, не трэба нікога лячыць. Усё, што я прашу ад вас — гэта парада, за якую я гатовы заплаціць. Нам вельмі патрэбны адвакат. А мы не ведаем, да каго звярнуцца.

— Як вы насмельваецеся парушаць мае медытацыі з такой нікчэмнай нагоды? Даведнікі нашпігаваны адрасамі адвакатаў!..

— Ды вы...' — пачаў раз'юшана Джынкс.

— Заткніся, прашу цябе! — зноў абарваў я яго.— Паслухайце, док, мы не можам выбраць адваката такім чынам.

— Я не ведаю, які адвакат вам патрэбны...

— Прашу вас, док, пагаворым сур'ёзна. Не можа быць, каб вы былі ў звязцы з гэтымі тыпамі і не чулі пра каго-небудзь...

— Прайшлі ўжо гады...

— Два гады,— абсек яго Джынкс.— Роўна два гады.

— А зараз,— распачаў я,— паслухайце мяне, док. У гэтай справе вы і драпіну атрымаць не можаце. Нам усяго толькі тэрмінова патрэбны адвакат. Я выдатна разумею вашае нежаданне зноў зблытвацца з гэтымі тыпамі і адабраю вас. Але гаворка ідзе зусім пра іншае. Мы ніколі больш не станем дакучаць вам. Ніколі больш не вернемся сюды.— («А як інакш я знайду гэтую дзяўчыну?» — падумаў я.) — Але я прашу вас згадаць хоць каго-небудзь, чыё імя вы запомнілі. Вам жа не надта хочацца, каб мы працягвалі дакучаць вам?

— Не.

— Тады падумайце і назавіце якога-небудзь адваката.

Ён глядзеў на мяне, пакусваючы вусны.

— Паспрабуйце звязацца з Кітам Манданам,— сказаў нарэшце стары.

— Дзе я яго знайду?

— У яго ёсць кантора ў горадзе.

— Дзякуй,— сказаў я.

— Адзіны спосаб, якім вы можаце аддзячыць мне, гэта ніколі больш не прыходзіць сюды.

«Не раней, чым заўтра,— падумаў я.— Заўтра ўвечары, калі яна будзе тут».

Я павярнуўся, і мы выйшлі.

— Варта трохі паправіць твой характар,— сказаў я Джынксу.— Трэба навучыцца ладзіць з людзьмі.

— Ён чокнуты. Зараз ты можаш зразумець, чаму хлопцы адчапіліся ад яго.

— Далёка не такі чокнуты, як ты думаеш.

— Не давяраю я яму. І гэтаму Мандану таксама не давяраю.

— Часу выбіраць няма. Трэба браць, што ёсць...

Джынкс дакрануўся да маёй рукі — спалохана, хутка, усё роўна як хацеў папярэдзіць мяне аб небяспецы, і я павярнуў галаву, засоўваючы руку ў кішэню, дзе ляжаў рэвальвер.

Метры за два ззаду ад нас ціха ехала ўздоўж тратуара вялікая адкрытая машына. Фары ў яе былі выключаны... За рулём сядзела тая самая дзяўчына з белым тварам і чорнымі валасамі. Я ўсміхнуўся сам сабе і паклаў рэвальвер назад. Значыцца, я наконт яе не памыліўся...

— Падвезці вас? — запыталася яна.

— З задавальненнем,— адказаў я.— Давай,— сказаў я Джынксу.

Яна спыніла машыну, нахілілася і адчыніла дзверкі. Я сеў, за мною Джынкс.

Запальваючы фары, дзяўчына ўсміхнулася...

— Дзякуй вам за ласку,— сказаў я.

— Нічога асаблівага. Куды вас падвезці?

— Да стаянкі таксі, калі вам не цяжка,— адказаў я.

— Куды вы едзеце?

— У другі канец горада.

— Гэта мне па дарозе. Вы можаце ехаць са мною, пакуль не напаткаеце таксоўку. Баюся, што іх тут зараз яшчэ доўга не будзе.

— Тады мы з вялікай падзякай згаджаемся,— сказаў я...

«Холідэй,— думаў я,— дзяўчына выдатная. Але ж ці не толькі таму ты лічыш яе выдатнай, што яна была ў цябе першая за два гады? Ці не звычайная яна самка, што выбралася з джунгляў? Хіба ты ўпэўнены, што якраз цяпер яна не забаўляецца ў ложку з якім-небудзь хлопцам, а то і з двума ці трыма разам? А гэтая мышка, ці ж стане яна так рабіць? Пэўна што не. У гэтай ёсць жаночы стрыжань. Яна не стане падстаўляцца пад першага прычасанага мопса! З ёю ты ніколі не будзеш думаць, які свіняча выверт зладзіць яна табе праз хвіліну».

— Вы даўно цікавіцеся касмічнай свядомасцю? — запытаўся я.

— Тры-чатыры гады.

— Не хачу здацца вам цёмным, але што гэта? Рэлігія ці нешта падобнае?

— Не. Гэта філасофія, якая мае дачыненне да чацвёртага вымярэння, або, дакладней, да матэматычнай канцэпцыі чацвёртага вымярэння.

— Цяпер я ўжо ўвогуле нічога не разумею,— сказаў я.

Яна засмяялася.

— Гэта вельмі цікава, паверце мне. Спадзяюся ўбачыць вас на адной з лекцый Настаўніка.

— Я не ведаю нічога пра касмічную свядомасць, наадварот, ведаю некаторыя рэчы, звязаныя з вымярэннямі. І я не зусім згодны з тэорыяй, паводле якой чацвёртае вымярэнне мае філасофскі ці матэматычны характар. На маю думку.

Здзіўленая, яна азірнулася:

— Першы раз чую такое,— сказала яна задуменна.

— Трэба нам паспрачацца або гэтым як-небудзь неўзабаве. Аб гэтым і аб некаторых іншых пытаннях,— сказаў я і зразумеў, кінуўшы на яе хуткі позірк, што яна выдатна здагадваецца, пра якія іншыя пытанні ідзе гаворка.

Джынкс падаўся ўперад.

— Вось таксоўка,— сказаў ён.

— Знойдуцца іншыя,— сказала дзяўчына.

— Мы не хацелі б доўга вам дакучаць,— сказаў я, працягваючы ёй руку і ўпотайкі ад Джынкса робячы знак, што наступным разам я ўжо буду без таварыша.

Яна спынілася ля самага тратуара. Джынкс выйшаў.

Калі я выходзіў, то зноў адчуў гэты пах парфумы і цяпер ужо згадаў марку. Гэта была *«Гуэль дэ Ночэ»*.

— Вы падбіраеце сабе парфуму з вялікім густам,— сказаў я.

— Парфуму?

— «Гуэль дэ Ночэ». Нарэшце я пазнаў яе. Я з самага пачатку хацеў згадаць, як называецца парфума, якой вы карыстаецеся, але не мог. А цяпер ужо ведаю. «Гуэль дэ Ночэ».

— Ніколі не карыстаюся парфумаю.

— Але я адчуваю яе пах. Я шмат разоў чуў яго ад вас сёння.

— Гэта ў вас фантазія разыгралася. Я ніколі ў жыцці не карысталася парфумаю.

— Дык што, ты ідзеш? — запытаўся ў мяне Джынкс.

Паціснуўшы плячыма, я выйшаў з машыны і зачыніў дзверцы. Урэшце, калі яна настойвае на тым, што не карыстаецца парфумаю, то гэта не перакрэслівае яе вартасцяў.

— Дабранач,— сказала яна.

— Дабранач.

— Дык ты ідзеш? — паўтарыў Джынкс.

Я развітаўся з ёю і пайшоў услед за Джынксам у таксоўку. Праз нейкі момант дзяўчына ад'ехала, і неўзабаве я бачыў ужо толькі дзве чырвоныя фары ўдалечыні. Джынкс выцягнуў руку і зачыніў дзверцы, круцячы галавою.

— Ніколі не чуў такой лухты,— сказаў ён.— Навошта ты забіваў сабе галаву такім ідыятызмам?..

— Памаўчы. Я ўспамінаю сёе-тое.

Я сапраўды пачаў нешта прыпамінаць...

Пах парфумы рабіўся ўсё мацнейшы, а потым, зусім раптоўна, задрыжэў кожны мой нерв, кожная часцінка майго цела. Загучэла шарманка. Усё роўна як маланкаю мяне асляпіла, ледзяным ветрам абдала, і ўсё гэта ўжо было са мною гады назад, даўно-даўно, а калі ўсё гэта прайшло, я ўбачыў белы-белы твар і чорныя, аж смаляныя валасы — гэта была мая бабуля, яна ляжала ў труне ў гасцёўні старога дома. Гарэлі свечкі, і ўвесь пакой поўніўся пахам кустоўя *«Гуэль дэ Ночэ»*, што абкружала дом...

Усёмагутны Творца, падумаў я, цяжка дыхаючы, *менавіта ж гэты пах я і адчуў у дзяўчыны!* Яна праўду казала: гэта не парфумаю пахла — гэта мроілася мне. Яе твар быў такі ж белы, як у маёй бабулі, валасы такія ж чорныя, нават знешне былі яны падобныя — бабуля мая і гэтая дзяўчына, вось і ўсё, вось у чым справа...

### IX

Дзверы адчыніліся, і я ўбачыў Кіта Мандана. Гэта быў маленькі чалавечак, ростам футаў пяць сама болей, з мангольскім носам і бровамі настолькі густымі, што яны ажно вочы зацямнялі. На ім былі даўжэзны, да самай падлогі, халат і драўляныя сандалі...

Ён прапанаваў мне сесці і адразу ж запытаўся:

— Дык у чым справа?

Я сеў у глыбокі фатэль, накрыты парчовым алтарным абрусам...

— Мне патрэбна дапамога, пан Мандан.

— З-за гэтага да мяне і прыходзяць. Я не з тых людзей, якіх цікавяць бессэнсоўныя візіты. Якая дапамога?

— Юрыдычная. Парада...

— Якія ў вас грошы?

— Рэч не ў тым, колькі я іх маю цяпер, а ў тым, колькі я буду іх мець.

— Я не варажу на будучыню.

— Але гэтая будучыня не варажба. Ва ўсякім разе, гэта зусім не тое, што было ў Бэбэ Нэльсана...

Ён крыху нахіліў галаву набок і дзве-тры секунды ўглядаўся ў мяне, потым узяў з ніжняй палічкі круглага століка кардонку і працягнуў яе мне. Гэта былі цыгары, і я пакруціў галавою. Тады ён узяў адну сабе і паклаў кардонку на месца. Тут яму нешта вельмі не спадабалася. Я не бачыў, што гэта, але ён дастаў з кішэні маленькі срэбраны свісток і свіснуў. Гуку — аніякага. Тым не менш, я пачуў, як за маёй спінаю адсоўваецца парцьера, і, азірнуўшыся, убачыў слугу-негра, адзетага ў белыя, з ціку, панталоны і цёмна-шэры пуловер,— маладога, прыгожага і вельмі высокага.

— Пачысці попельніцу,— незадаволена буркнуў Мандан.

Негр адвёў руку назад — цяпер у ёй быў папяровы пакет, у які ён і сабраў з попельніцы пажаваныя, свежыя бычкі.

— Шкляначку вып'еце? — спытаўся ў мяне Мандан.

— Не, дзякую.

— Зрабі нам кавы, Альтэс,— сказаў ён слузе.

Негр не сказаў ні слова. Выходзячы з пакетам у руках, ён не паглядзеў ні на Мандана, ні на мяне. Мандан зноў нахіліў галаву набок, прыгледзеўся да мяне і нарэшце запаліў сваю цыгару — запальніца ў яго была такая вялікая, што ён трымаў яе абедзвюма рукамі. Затым ён паклаў яе на столік і ўсеўся ў фатэлі.

— Што вы гэтым хочаце сказаць: гэтая будучыня не такая варажба, як у Бэбэ Нэльсана? — запытаўся ён.

— Я хачу гэтым сказаць, што гэтая будучыня — будучыня не дурня. А Бэбэ Нэльсан быў дурнем.

— Любы чалавек, які парушае закон — дурань.

— Гэта датычыць і паліцэйскіх?

— Любы паліцэйскі, які парушае закон — двойчы дурань.

— Значыцца, дурняў хапае...

— Ведаеце некага?

— Не аднаго.

— І можаце гэта даказаць?

— Выдатна, яны ў мяне на кручку... У мяне багата доказаў, і я збіраюся скарыстаць іх ва ўласных інтарэсах. Гэтыя доказы — дынаміт, і я хачу даверыць іх такому чалавеку, якога яны будуць баяцца, бо ён умомант зваліць іх, калі яны паспрабуюць падкласці нам свінню.

— І што ж гэта за доказы?

— Дыск, на які запісана сцэна, дзе паліцэйскія ў цывільным адымаюць у мяне грошы — дакладней, восемсот долараў, усё, што засталося ў мяне ад налёту на магазін, у ходзе якога я забіў чалавека,— і назвы паліцэйскія згаджаюцца падчас гэтай сцэны саўдзельнічаць са мною ў другім замаху, які рыхтуецца.

Лоб у Мандана зморшчыўся, бровы апусціліся.

— І, мабыць, мне вы і сабраліся перадаць гэтыя... доказы?

— Вам.

— А што вы маеце на ўвазе пад гэтым: выкарыстаць гэтыя доказы ва ўласных інтарэсах? Хочаце застрахавацца ад арышту за новыя злачынствы, якія яшчэ здзейсніце?

— Нешта накшталт. У мяне яшчэ няма пэўнага плана. Не было яшчэ часу пра гэта падумаць. Гэтая гісторыя толькі што здарылася.

— Дык выходзіць так, што вы просіце мяне стаць саўдзельнікам вашых злачынстваў?

*(Працяг будзе).*

